ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 82 (1719) | Пятніца, 12 кастрычніка 1962 года | Цана 4 кап.



Набліжаецца дзень нашага нараджэння — 45-ы Кастрычнік. Яго жыватворны подых — ужо зараз у буднях прадпрыемстваў, устаноў, калгасаў. Вось толькі двое з мільёнаў рабочых і калгаснікаў, што сталі на перадкастрычніцкую працоўную вахту. Чаму іменна імі зацікавіліся фотакарэспандэнты БЕЛТА П. Наватараў і Г. Усламаў? Ды таму, што слесары-зборшчыкі В. Скараход і Н. Жук — перадавыя сярод перадавікоў. У перадсвяточным спаборніцтве рабочых Беларускага аўтазавода брыгада, у якой яны працуюць, — на першым месцы.

## ЯШЧЭ АДЗІН НАРОДНЫ

Камсамольцы Гомельскай панчошна-трыкатажнай фабрыкі імя 8 сакавіка прапанавалі адкрыць на іх прадпрыемстве народны кніжны магазін.

Вырашылі даручыць гэтую пачэсную справу Раісе Карагодавай. Яна намеснік сакратара камітэта камсамола, працуе інструктарам па навучанню ў панчошным цэху. Рая чулы і сціплы таварыш, паважаюць яе ў калектыве. Так Р. Карагодава стала загадчыцай народнай кнігарні буйнейшага ў Гомелі прадпрыемства. Яе першым памочнікам прызначылі Ларысу Краснабаеву.

Раіса Шыхавец — лякальшчыца швейнага цэха № 1, Валя Клімовіч — бракаўшчыца вязальна-трыкатажнага цэха, Анатоль Кацуба — брыгадзір фарбавальнага цэха, Тамара Мурашка — нарміроўшчыца, Люда Белая — швачка — ім і іншым перадавікам вытворчасці камітэт камсамола даручыў распаўсюджваць кнігу.

Сакратар камітэта камсамола фабрыкі Кацярына Гайдышава разам з Р. Карагодавай і Л. Краснабаевай прыйшлі ў кніжны магазін № 10. Сустрэлі іх ветліва, нібы старых знаёмых, памаглі падабраць кнігі.

Прагнасць да кнігі, да навукі на фабрыцы настолькі вялікая, што першую партыю кніг на 118 рублёў распрадалі за два дні. Хутка на фабрыку прывезлі кніг ужо на 215 рублёў, іх таксама распаўсюдзілі за некалькі дзён.

— Як толькі мы прынеслі кнігі ў цэх, — расказвае лякальшчыца швейнага цэха № 1 Р. Шыхавец,— у перапынку вакол нас сабраліся амаль усе работніцы змены і ахвотна куплялі кнігі.

— З кнігай і працаваць, і жыць весялей, — гавораць работніцы фабрыкі імя 8-га сакавіка.

**Р. МАРГОЛІН,**
**загадчык Гомельскага кніжнага магазіна № 10.**

*ЦІКАВАЯ і карысная размова аб актуальных праблемах горадабудаўніцтва і архітэктуры распачата на старонках «Літаратуры і мастацтва» артыкулам І. Белагорцава «Прыгажосць і мэтазгоднасць». Трэба толькі, каб яна не абмяжоўвалася пытаннямі планіроўкі і забудовы Мінска, але і датычылася іншых гарадоў нашай рэспублікі. Аб некаторых праблемах будаўніцтва і рэканструкцыі беларускай сталіцы і будаўніцтва нашых гарадоў-новабудоўляў, якія ўзніклі на базе гігантаў вялікай хіміі, мне і хацелася б пагаварыць.*

# ГАРАДЫ БУДУЧАГА РАСТУЦЬ СЁННЯ

Прыгажосць і мэтазгоднасць

## 1. ПА-МАСТАЦКУ АСЭНСАВАНА, ЗРУЧНА ДЛЯ ЧАЛАВЕКА!

**А. ТАФ,**
**архітэктар.**

У БЛІЖЭЙШАЕ дваццацігоддзе ў Мінску будзе разгорнута велізарнае будаўніцтва, якое ў многім вызначыць будучыню беларускай сталіцы. Таму вельмі важна ўжо цяпер правільна ацаніць усё тое, што зроблена і вызначыць шляхі далейшых горадабудаўнічых пераўтварэнняў.

Тэхніка - эканамічныя асновы генеральнага плана развіцця Мінска на бліжэйшыя дваццаць год, якія распрацоўваюцца інстытутам «Мінскпраект», прадугледжваюць неабходныя ўмовы для паскарэння масавага жыллёвага будаўніцтва, рацыянальнага вырашэння планіроўкі і забудовы сталіцы, комплекснага развіцця ўсіх галін гарадской гаспадаркі і найбольш спрыяльных умоў для працы, быту і адпачынку насельніцтва. Ад таго, наколькі правільна і навукова абгрунтавана будуць улічаны ў генеральным плане такія фактары, як колькасць насельніцтва, напрамак развіцця прамысловасці, транспарту і г. д., залежыць будучыня нашага горада, яго камуністычнае заўтра.

Перспектыўная колькасць насельніцтва Мінска згодна з гэтым планам — 1.200 тысяч чалавек (у цяперашні час у горадзе жыве каля 600 тысяч чалавек). Для таго, каб да канца дваццацігоддзя не толькі поўнасцю ліквідаваць недахоп кватэр, але і дабіцца высокай жыллёвай нормы для кожнага мінчаніна, трэба будзе пабудаваць дадаткова звыш 12 мільёнаў квадратных метраў жылой плошчы. Гэта ў тры разы перавысіць сённяшні жылы фонд. Ці рэальная гэта задача, калі ўлічыць, што цяпер штогод у Мінску ўводзіцца ў эксплуатацыю каля 300 тысяч квадратных метраў новай жылой плошчы. Так, рэальная. Але для гэтага ўжо ў бліжэйшыя гады прырост жыллёвага фонду павінен як мінімум падвоіцца, а затым павялічыцца яшчэ больш.

Масавы пераход на буйнапанельнае будаўніцтва — важнейшая прадумова паспяховага вырашэння самай вострай праблемы ўздыму дабрабыту савецкага народа. Аднак, для такога вялікага аб'ёму жыллёвага будаўніцтва патрэбна больш эфектыўна выкарыстоўваць усе гарадскія землі, аптымальна ўшчыльніць жылы фонд, а ў сувязі з гэтым неабходна вызначаць колькасць паверхаў забудовы. Мінск сёння забудоўваецца ў асноўным чатырох- і пяціпавярховымі дамамі з малагабарытнымі кватэрамі, што не заўсёды дае жаданы горадабудаўнічы і архітэктурны эфект. Нам здаецца, што па прыкладу Масквы і іншых буйных гарадоў краіны, мэтазгодна ўжо цяпер у асобных раёнах горада будаваць дамы ў 5—9—14 паверхаў, зыходзячы, зразумела, у кожным выпадку з канкрэтных умоў і асаблівасцей.

Практыка паказвае, што ва ўмовах паўназборнага будаўніцтва васьмі-дзевяціпавярховыя дамы больш эканамічныя, чым чатырох- пяціпавярховыя без ліфта, бо, калі павялічваецца колькасць паверхаў, скарачаюцца выдаткі на інжынернае абсталяванне, будаўніцтва дарог. Апрача таго, васьмі- дзевяціпавярховыя дамы, абсталяваныя ліфтамі і смеццеправодамі, маюць большыя бытавыя выгоды. Забудова са змешанай колькасцю паверхаў дазволіць таксама лепш вырашыць і чыста архітэктурныя задачы.

ПРАБЛЕМА гэтая часам упіраецца і ў другую праблему — стварэнне новых і больш разнастайных тыпавых праектаў. Існуючыя праекты, створаныя некалькі год назад, сёння ўжо ў многім устарэлі, яны абмяжоўваюць магчымасці архітэктара. Пабывайце ў новых мікрараёнах Мінска—на вуліцах Арлоўскай, Волгаградскай, Карла Лібкнехта. Да чаго аднастайна паўтараюцца тут на вялікіх тэрыторыях аднатыпныя дамы! Усе яны чатырох- пяціпавярховыя, усе адной канфігурацыі і аднаго і таго ж невыразнага колеру. Дамы расстаўлены непрадумана, без уліку паўнацэннай арганізацыі ўсяго мікрараёна, адсутнічае выразная структура і планіроўка. Усё гэта робіць раён няўтульным, і акрамя таго ў ім цяжка знайсці патрэбны дом і кватэру. У сувязі з гэтым варта сказаць, што прагрэсіўны прынцып так званай свабоднай планіроўкі зусім не павінен азначаць планіроўку, не арганізаваную наогул. Нельга дасягнуць выразнасці сучаснай архітэктуры і без ужывання прагрэсіўных канструкцый, новых аддзелачных высакаякасных матэрыялаў, без выкарыстання колеру, як сродкаў архітэктурнай выразнасці.

Вядома, што колер і фактура панеляў дамоў у жыллёвым будаўніцтве ў значнай меры вызначаюць характар усяго жылога масіву. Да гэтых сродкаў адносяцца і розныя варыянты балконаў, уваходных пляцовак, карнізаў, а таксама ўвядзенне ў ансамблі мікрараёнаў архітэктуры малых форм. Усё гэта дазволіла б унікнуць аднастайнасці забудовы і значна палепшыла б знешні выгляд буйнапанельных дамоў. Бо цяпер з будаўнічай практыкі Мінска відаць, што колер, як адзін з моцных сродкаў фарміравання аблічча кварталаў і мікрараёнаў, выкарыстоўваецца вельмі слаба, і, як правіла, няўдала. У нас амаль не ўжываецца прыём кантрасту ў каляровым вырашэнні вуліц і ўнутрыквартальных прастораў. Звычайна магазіны, школы, дзіцячыя ўстановы, якія стаяць асобна, будуюцца такога ж колеру і з тых жа матэрыялаў, што і жылыя дамы. У выніку, нягледзячы на вялікі памер будынка, ён здаецца панурым і аднастайным.

На самай справе багатая каляровая гама будынкаў, пры абавязковым захаванні меры інтэнсіўнасці колеру, там, дзе шмат разоў паўтараюцца адны і тыя ж тыпы дамоў, тоіць у сабе вялікія магчымасці. Гэта відаць з практыкі забудовы Масквы, Ленінграда, Кіева і іншых гарадоў, у прыватнасці, прыбалтыйскіх. Там, як правіла, фасады будынкаў, размешчаных на магістралях горада, афарбоўваюцца ў светлыя таны. Унутраныя ж прасторы фарбуюць у іншы колер, ствараючы ўтульныя, разнастайныя групы дамоў. Вельмі эфектна, калі і тарцы будынкаў робяцца каляровымі, але без лішняй рэзкасці і кантрасту з колерам падоўжных сцен, каб не было адчування раздробленасці аб'ёмаў. У светлыя таны, што радуюць наш позірк, афарбоўваюцца лаўкі, кіёскі і г. д. Трэба смялей таксама выкарыстоўваць колер і ва ўбранні мікрараённых сквераў, паркаў.

Вядома, што выяўленчыя асаблівасці сучаснай архітэктуры заключаюцца не ў фармальным і дарагім упрыгожванні фасадаў рознай лепкай і застарэлай геральдыкай, якая не адлюстроўвае ні сучаснай канструктыўнай асновы архітэктуры, ні тэхналогіі будаўніцтва. Выяўленне прыгажосці саміх матэрыялаў і канструкцый, прыгажосці пластычных форм архітэктурных збудаванняў—у гэтым іменна асноўны напрамак сучаснай архітэктуры. Цяпер сумесная работа архітэктара і мастака павінна быць асабліва актыўнай і плённай. Бо сапраўды — якія вялікія магчымасці тоіць у сабе, напрыклад, адзінства архітэктуры з манументальным жывапісам!

У апошні час зарубежныя і савецкія мастакі-манументалісты па-наватарску падыходзяць да пошукаў новых сродкаў выразнасці, цесна звязаных з ужываннем новых матэрыялаў у будаўніцтве жылых і грамадскіх будынкаў і збудаванняў. У нас ужо ёсць прыклады ўдалага выкарыстання колеру і геаметрычнага малюнка ў архітэктуры жылых дамоў, будынкаў культурнага абслугоўвання насельніцтва і прамысловых прадпрыемстваў. Так, у Маскве для тарцоў буйнапанельных жылых дамоў намечана ўжываць тэматычныя ўстаўкі з дробнай керамічнай пліткі, вітражы са шкла, абліцоўку пласцікамі і алюмініем. Няма патрэбы тут даказваць, што як у паляпшэнні вонкавага выгляду існуючых гарадскіх ансамбляў, так і ў стварэнні новых варта карыстацца ўсімі відамі дэкаратыўнага мастацтва.

Гутарка ідзе аб павышэнні культуры праектавання і будаўніцтва, аб больш сучасным вырашэнні архітэктурных задач. Цяпер перад намі стаіць больш складаная праблема, чым аднаўленне і рэканструкцыя Мінска—трэба стварыць горад новага тыпу, у структуры і знешнім абліччы якога маглі б быць адлюстраваны сацыяльныя і эстэтычныя ідэалы, характэрныя для горада камуністычнага заўтра. Прынцыпы сучаснай забудовы—вялікімі жылымі комплексамі—мікрараёнамі, якія з'яўляюцца асновай сучаснага горадабудаўніцтва, паспяхова выкарыстоўваюцца ў беларускай сталіцы і ў многіх гарадах рэспублікі. У жылых масівах ствараюцца комплексы бытавога абслугоўвання.

Але побач з гэтымі вялікімі і бясспрэчнымі дасягненнямі, ёсць недаацэнка мастацкага боку горадабудаўніцтва. Яна прыводзіць да аднастайнасці архітэктурнага аблічча нашых гарадоў і не адпавядае эстэтычным патрабаванням савецкіх людзей.

ПЕРАД НАМІ стаяць зараз вялікія і адказныя задачы па завяршэнню ансамбля і забудовы плошчаў, галоўных магістраляў і вуліц, якія таксама маюць велізарнае значэнне ў фарміраванні структуры і архітэктурнага аблічча горада. На працягу апошніх год быў распрацаван рад праектных прапаноў па завяршэнню рэканструкцыі цэнтральнай часткі Мінска. І як у кожнай справе тут ёсць і свае станоўчыя і адмоўныя бакі.

Мне хочацца пагаварыць аб бліжэйшым будучым плошчы імя Леніна, коратка расказаць аб апошніх праектных прапановах і меркаваннях па завяршэнню яе ансамбля.

Як вядома, плошча Леніна ў Мінску складвалася на працягу доўгага часу ва ўмовах рэканструкцыі горада і стварэння яго цэнтральных раёнаў. Беларускія архітэктары разам з вядучымі майстрамі Масквы і Ленінграда стварылі ансамбль цэнтральнага раёна нашай сталіцы. У выніку шматгадовых і плённых творчых пошукаў удалося дамагчыся таго, што Дом урада — самы вялікі будынак у горадзе, актыўна ўвайшоў у ансамбль цэнтральнага раёна і нанава пракладзенага Ленінскага праспекта.

Забудову гэтай плошчы, яе канфігурацыю і памеры ў цяперашніх межах (займае яна каля шасці гектараў) у свой час прапанавалі вырашыць па-рознаму. Але ва ўсіх праектных пра-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

## НАРАДА БІБЛІЁГРАФАЎ

На працягу трох дзён у Мінску ў Дзяржаўнай бібліятэцы імя Ул. І. Леніна праходзіла рэспубліканская нарада бібліёграфаў, скліканая Міністэрствам культуры БССР. У рабоце нарады прынялі ўдзел работнікі гарадскіх і раённых бібліятэк Беларусі. З дакладам аб стане і задачах бібліяграфічнай работы ў святле рашэнняў XXII з'езда КПСС выступіў старшыня камісіі па бібліяграфічнай рабоце пры Міністэрстве культуры М. Талкачоў. Затым з кароткімі дакладамі выступілі дырэктар Магілёўскай абласной бібліятэкі Н. Саўчанка, дырэктар Віцебскай абласной бібліятэкі Д. Геніна, загадчык аддзела беларускай літаратуры бібліятэкі імя Ул. І. Леніна М. Васілеўскі. Удзельнікі нарады абмяняліся вопытам работы.

У нарадзе прынялі ўдзел бібліёграфы Масквы і Вільнюса.

## РАБОТЫ МАСКОЎСКІХ ГРАФІКАЎ

У Гродна экспануецца выстаўка работ маскоўскіх мастакоў-графікаў. Тут работы вядомых майстроў — Ул. Фаворскага, М. Жукава, Г. Вярэйскага, О. Вярэйскага і іншых.

Розныя па тэматыцы, разнастайныя па тэхніцы выканання работы маскоўскіх графікаў прываблваюць сваёй прастатой, праўдзівасцю і майстэрствам. Цікавыя работы народнага мастака СССР М. Жукава, які адлюстраваў вобраз Уладзіміра Ільіча Леніна.

Шырока вядомы ў нашай краіне ілюстрацыі да класічных твораў рускай літаратуры старэйшага графіка лаўрэата Ленінскай прэміі Ул. Фаворскага. На выстаўцы прадстаўлены ілюстрацыі да народнага эпасу «Слова аб палку Ігаравым».

Гродзенцы пазнаёміліся таксама з творчасцю маладых графікаў. М. Ройтэр, С. Снаткін, Л. Ройтэр у сваіх лінагравюрах расказваюць пра гераічныя справы нашых сучаснікаў.

Цікавыя па каляроваму вырашэнню і па каларыту работы графікаў І. Багдэска і В. Сігорскага, якія працуюць у тэхніцы каляровай лінагравюры.

## ВЫСТАЎКА ПОЛЬСКАЙ КНІГІ



«Над Нёманам» Элізы Ажэшка, «Попел» Стэфана Жаромскага, «Патоп» і «Крыжаносцы» Генрыха Сянкевіча, «Фараон» Баляслава Пруса... Каму не знаёмы назвы гэтых кніг і прозвішчы выдатных польскіх пісьменнікаў! І таму зразумела, што выстаўка польскай кнігі, якая адкрылася днямі ў мінскім магазіне кніг краін народнай дэмакратыі, з'явілася падзеяй у культурным жыцці сталіцы.

Нашы польскія сябры таварыства «Арс-палонія», якое экспартуе кнігі, прывезлі ў Мінск каля трохсот назваў грамадска-палітычнай, мастацкай, навуковай і тэхнічнай літаратуры. Прадстаўнік таварыства Ванда Дурачынская сказала:

— Наша таварыства штогод атрымлівае сотні пісем з Беларусі. У іх просяць даслаць розную літаратуру на польскай мове. Мы з задавальненнем выконваем заказы нашых беларускіх сяброў. Вось і цяпер прывезлі многа цікавых кніг...

Кнігі сапраўды цікавыя. Шматлікія наведвальнікі магазіна, якія прыйшлі на адкрыццё выстаўкі, ахвотна разглядаюць цудоўна выдадзеныя творы польскіх класікаў, раманы і аповесці сучасных пісьменнікаў. Тут кнігі С. Вайткевіча «Агент нумар адзін», С. Братнага «След», А. Піваварчыка «Адкрытае акно» і многа іншых.

Багата прадстаўлена грамадская літаратура. Прыцягваюць увагу добра ілюстраваныя альманахі польскай фатаграфіі, нарысы аб старажытных гарадах, альбомы, прысвечаныя буйнейшым дзеячам мастацтва і музыкі. Аформлены раздзелы дзіцячай кнігі і тэхнічнай літаратуры. Прывезлі нашы польскія сябры і выдавецкія планы. Многія наведвальнікі выстаўкі не толькі набылі кнігі, але і зрабілі заяўкі на творы, якія хутка выйдуць з друку. Іх вышлюць беларускаму чытачу.

На нашым здымку — у кніжным магазіне пасля адкрыцця выстаўкі польскай кнігі.

Фота Ул. КРУКА.

Нашы інтэрв'ю

## ДЛЯ ЮНЫХ, ЦІКАЎНЫХ



У нашай рэдакцыі — дырэктар Рэспубліканскага тэатра юнага гледача заслужаны дзеяч мастацтва БССР Ул. Стэльмах. Тэма размовы — новы сезон у тэатры.

— Новую старонку ў творчай біяграфіі калектыву, — гаворыць дырэктар, — мы пачынаем з вялікім хваляваннем.

— Напэўна з такім, як і заўсёды?

— Не, з большым,—падкрэслівае наш госць.— У нас не было падстаў сумнявацца ў выбары першых спектакляў. У тэатры стала традыцыяй пачынаць сезон «Папараць-кветкай» І. Козела, якая прайшла на сцэне паўтараста разоў і па-ранейшаму вабіць гледачоў. Поруч з ёю на афішы стаяць новыя пастаноўкі— «Клоп» Ул. Маякоўскага (ён у мінулым сезоне быў паказан толькі аднойчы і можа лічыцца прэм'ерай) і «Том — вялікае сэрца» С. Багамазава і С. Шатрова — п'еса, якая ў манеры дзіцячага апавядання расказвае пра нацыянальна-вызваленчы рух у афрыканскіх краінах.

— Нас хвалявалі перш за ўсё, — працягвае субяседнік, — новыя формы сувязей з гледачамі. Справа ў тым, што тэатр сёлета ўпершыню пачынаў сезон без упаўнаважаных па распаўсюджванню білетаў. Раней увесь клопат аб продажу білетаў ляжаў на іх.

— Колькі ўпаўнаважаных было ў вашым тэатры?

— Пяць чалавек. Работа, якую яны праводзілі, цалкам легла на плечы галоўнага адміністратара М. Кушалевіча і педагога тэатра Д. Фефер.

— І як жа справы ідуць?

— Пакуль нядрэнна. Не хвалячыся, можам сказаць: на нашы... спектаклі не заўсёды проста дастаць білеты. Ва ўсякім разе, да канца кастрычніка даўно ўжо ўсе білеты распрададзены.

— Як жа два чалавекі ўпраўляюцца з тым, што не вельмі ўдавалася пяцярым, нават семярым,—калі былі ў тэатры і распаўсюджвальнікі, і адміністратар, і педагог?

— Я ж вам казаў — новыя шляхі.

— У чым яны?

— Па-першае, універсітэт культуры пры тэатры для навучэнцаў школ працоўных рэзерваў.

— ?..

— Слухачы універсітэта прыходзяць да нас у тэатр. Перад спектаклем яны слухаюць лекцыю на адну з тэм сцэнічнага мастацтва. Лекцыі чытаюць галоўны рэжысёр тэатра Б. Дакутовіч, галоўны мастак І. Пешкур, супрацоўнікі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР С. Пятровіч, А. Лабовіч, кандыдат мастацтвазнаўства Ул. Няфед...

— Відаць, і дырэктар?

— Так, і дырэктар. Дарэчы, заўважце, чытанне лекцый — на грамадскіх асновах, бясплатнае.

— Другая навіна, — працягвае Ул. Стэльмах, — вечары мастацтва.

Мы прыгадалі, што нешта падобнае было ўжо ў іншых тэатрах. Госць запярэчыў:

— Танцулькі? Не. У нас — іншае. Юныя гледачы і моладзь перад спектаклямі сустракаюцца з аўтарам твора, які ў гэты вечар яны будуць бачыць на сцэне. А пасля спектакля зноў гутарка — з удзельнікамі, з рэжысёрам. Гэта вельмі збліжае тэатр з гледачом, які робіцца потым сапраўдным і пастаянным спадарожнікам тэатра. Такая сустрэча была ўжо з Іванам Козелам на спектаклі «На хвалях Серабранкі».

— Так, гэта цікава, — згаджаемся мы. — Толькі, прабачце, ці не аднастайна?

— Будзем шукаць разнастайнасць.

— А што, калі з гледачамі прачытаць новы твор, які збіраюцца ставіць у тэатры?

Наша прапанова прыйшлася, відавочна, па густу дырэктару. Ён адразу ж зазначыў, якія з новых п'ес беларускіх аўтараў было б варта абмеркаваць з гледачамі.

Далей Ул. Стэльмах расказаў нам аб формах сувязі з гледачамі, якія выпрацаваны тэатрам раней — Дні настаўніка і дырэктара школы, на якіх абмяркоўваюцца рэпертуарныя планы і г. д.

— Найбольш складаная для нас праблема — па-сапраўднаму зацікавіць вучняў старэйшага ўзросту, — гаворыць субяседнік. — Яны часта лічаць, што наведваць ТЮГ ім ужо не выпадае: маўляў, тэатр не дарос, а яны пераераслі...

— Дык каму ж куды трэба расці — вам «уверх» ці ім «уніз»?

— Трэба разам, — смяецца дырэктар. — Як на стымул сумеснага росту мы спадзяёмся на чарговую нашу прэм'еру, што мае адбыцца да Кастрычніцкіх свят — «Гэта не так усё проста...» па п'есе Г. Шмялёва. Спектакль будзе расказваць аб шчырым сяброўстве, аб першым светлым каханні. Асноўныя героі — дзевяцікласнікі. Вельмі цікавы ў п'есе вобраз настаўніцы, сапраўднага кіраўніка класа, якая па-бацькоўску і па-таварыску ставіцца да сваіх выхаванцаў. Ставіць спектакль заслужаны артыст БССР В. Пацехін, афармляе мастак І. Пешкур.

Размова перайшла да рэпертуарных планаў.

— Адначасова з п'есай «Гэта не так усё проста...» рэпеціруем п'есу-казку «Чырвоная шапачка» Я. Шварца — для самых маленькіх гледачоў (ставіць дыпломнік рэжысёрскага факультэта Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута В. Арлоў, мастак — Ф. Кіпніс) і для моладзі — п'есу А. Прылонскага «Апошні старацель». Гэта рамантычны твор аб маладых будаўніках, якія працуюць у тайзе, пракладаюць чыгунку.

— А далей,—працягвае Ул. Стэльмах, — думаем пракладаць дарогу ў космас. «Бітва ў космасе» — так называецца п'еса Міколы Гамолкі, якую ён здаў нам нядаўна.

Папрасіўшы прабачэння, мы запыталі, ці не ёсць гэта новы варыянт — сцэнічны—рамана «Шосты акіян»? Дырэктар спачатку збянтэжыўся (ён ведае пра адказ Міністэрства культуры БССР «Литературной газете», у якім паведамлялася, што ніякіх перавыданняў рамана не будзе). Крыху падумаўшы, Ул. Стэльмах катэгарычна запярэчыў:

— Не, гэта не тое. Аўтар зусім адышоў ад рамана. Паўгода ён працаваў з намі. Гэта — самастойны твор... Далей: новую п'есу напісаў нам Валянцін Зуб — пра Марата Казея.

— Чыталі?

— На мастацкім савеце.

— Прынялі?

— Будзем разам з аўтарам дапрацоўваць.

Твар дырэктара раптам святлее ўсмешкай:

— Ёсць камедыя! Уяўляеце — лета, канікулы ў школе. Бацькі адпраўляюць дзяцей у піянерскі лагер. Там сумна, і дзеці... уцякаюць.

— Непедагагічна...

— Чакайце. Уцякаюць яны на Палессе, у рамантычнае падарожжа. Бацькі наўздагон — у пошукі. Сустрэча адбудзецца ў палескім калгасе. Адпачынак бацькоў і канікулы школьнікаў пройдуць тут, на Палессі. І суму не будзе.

— А што будзе?

— Камедыя, — смяецца дырэктар. — Потым убачыце. Аўтар яе — Мікола Сергіевіч.

Далей у плане сезона — казкі Пушкіна: «Пра рыбака і рыбку», «Пра папа і яго работніка Балду», «Пра мёртвую царэўну і сем асілкаў». Гэты паэтычна-казачны трыпціх з адзінаю кампазіцыяй і вядучым упершыню створан у Ленінградскім тэатры юнага гледача.

З рэпертуару Маскоўскага ТЮГа будзе ўключана п'еса М. Чачкова «Хлапчукі з Гаваны» — пра жыццё дзяцей гераічнай Кубы.

— Пасля «Клапа» (адзначце, што гэта — перспектыва) падумваем пра «Лазню» Ул. Маякоўскага. Вабіць нас і Шэкспір. Напэўна, паставім яго камедыю «Два веронцы».

— А што ж яшчэ з арыгінальных беларускіх твораў з'явіцца на афішы?

— П'еса А. Вольскага і П. Макаля «Побач з табою».

— Тая, што?..

— Тая, тая, — здагадваецца дырэктар пра нашы думкі: тры гады анансіруе тэатр гэты твор.— П'еса, нарэшце, завершана. Праца была нялёгкай, і мы рады, што маладыя аўтары аказаліся па-сапраўднаму ўпартымі і працавітымі.

Тэатр чакае, калі закончыць новую п'есу І. Ковел.

— І апошняе — «Зорка Венера». У аснову яе пакладзены факты з біяграфіі Максіма Багдановіча. Аўтары — Барыс Бур'ян і Мікола Алтухоў.

Скончыўшы размову аб рэпертуарных планах, мы звярнуліся да дырэктара з такім пытаннем:

— Прэм'ера «Клапа» выклікала шмат размоў аб творчым абліччы тэатра. Цяпер плануюцца «Лазня», Шэкспір, космас... Ці не азначае гэта, што з прыходам новага галоўнага рэжысёра тэатр вырашыў змяніць мастацкае крэда — ад бытавой лірыкі да тэатральнасці відовішча, да ўмоўнасці?

— Ні ў якім разе, — адказвае Ул. Стэльмах. — Больш дарэчы тут гаварыць пра ўзбагачэнне рэалістычнай лініі, закладзенай і распачатай адным з заснавальнікаў нашага тэатра заслужаным дзеячом мастацтва БССР Л. Мазалеўскай. Гэта — рост, а не перабудова.

— Якія ўзаемаадносіны тэатра з ранейшым галоўным рэжысёрам Л. І. Мазалеўскай?

— Творчыя, непасрэдныя. Любоў Іванаўна прысутнічае на нашых рэпетыцыях, на кожнай здачы спектакля... У час яе адыходу на пенсію тэатр прасіў яе застацца на штатнай пасадзе мастацкага кіраўніка, але яна адмовілася і з'яўляецца нашым пазаштатным кансультантам. Акрамя таго, мы ўпэўнены, што І. Козел сваю новую п'есу здасць ёй, і яна будзе яе пастаноўшчыкам.

У заключэнне размовы дырэктар паведаміў, што да тэатра прымацаваны для практыкі выпускны курс Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, які вясной цалкам увальецца ў склад трупы.

— І яшчэ адна вельмі радасная навіна: мы запрошаны для выступленняў на сцэну Крамлёўскага тэатра са спектаклем «На хвалях Серабранкі». Спадзяёмся, што ў рэпертуар паездкі будуць уключаны і нашы апошнія прэм'еры — «Клоп» і «Казачны домік».

— Гэта вялікая радасць, — развітваецца з намі дырэктар. — Хочацца, каб у нас было больш пастановак, вартых такога прызнання. Хочацца, каб да нас у тэатр людзі ішлі з той жа ахвотай, як ідуць яны ў цырк, на футбол, у кіно.

**Г. КОЛАС.**

